**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 13 (781) 26 сакавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае


Гуканне вясны пад Лепелем. 22.03.2015 г.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

**Глыбоцкія журналісты і краязнаўцы наведалі Лепель, дзе ў ваколіцах горада, ля стода Перуна, з удзелам мясцовай творчай грамады, адбыўся абрад гукання вясны.** *Працяг тэмы на стар. 4.*

## З 1 красавіка зарплаты кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў прывяжуць да прадукцыйнасці працы

З 1 красавіка памер зарплат кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў увяжуць з прадукцыйнасцю працы. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 214 ад 19 сакавіка, якая змяняе парадак усталявання каэфіцыента суадносін сярэдняй зарплаты кіраўнікоў і сярэдняй зарплаты па арганізацыі ў цэлым.

Памер каэфіцыента не можа перавышаць васьмі. Пры невыкананні па выніках справаздачнага квартала паказчыкаў чыстага прыбытку ці перавышэння тэмпу росту прадукцыйнасці працы над тэмпам росту зарплаты, дадзеных ва ўсталяваным парадку, каэфіцыент кіраўніку арганізацыі не перавысіць трох, адзначылі ў міністэрстве гандлю.

Гэта норма з'яўляецца абавязковай для ўжывання ў адносінах частак дзяржарганізацый і арганізацый, у статутным фондзе якіх частка дзяржавы складае больш 50%. У адносінах да кіраўнікоў іншых арганізацый ужыванне гэтай нормы носіць рэкамендацыйны характар.

***Telegraf/***

ISSN 2077-8023



## МНС інфармуе
**на 24.03.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 205;
Гібель людзей – 36, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 8;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –172 млн. руб.

Глыбоцкі раён

# Такі сумны фініш

■ Станіслаў Раманчук.

**Эканамічная сітуацыя на многіх беларускіх прадпрыемствах працягвае імкліва пагаршацца, і сёлета ўжо палова з іх сталі працаваць са стратамі.**

Не пазбегнуў падобных цяжкасцей і прамыслова развіты Глыбоцкі раён. Горш таго тут Эканамічны суд Віцебскай вобласці распачаў дзве справы аб банкруцтве адразу двух вядомых мясцовых прадпрыемстваў. У групу гаротнікаў першым патрапіў кансервавы завод "Купцовъ", які некалькі гадоў назад змяніў стратэгію развіцця і стаў працаваць пад новым брэндам, зрабіў стаўку на выпуск кансерваванага гарошку і разліў сокаў у тэтрапакеты. Аднак для глыбачан сыравіны для поўнай загрузкі не хапае, адзін з цэхаў прыйшлося закрыць з-за аварыйнага стану абсталявання. Падобныя беды і адсутнасць сродкаў таксама падвялі да мяжы ліквідацыі і Пліскі льнозавод, які размешчаны ў гарпасёлку Падсвілле. Там яшчэ летась для льноперапрацоўшчыкаў узніклі вялізныя праблемы, каб не дапамога ўсяго раёна, то вытворчасць магла б закрыцца яшчэ летась восенню. Нават паліва заводу закуплялі іншыя арганізацыі, яны ж дапамаглі запусціць другую змену, аднак усё роўна страты летась завадчан перавысілі 4 млрд. рублёў. Цяпер да пачатку лета заводу на 3 месяцы прадастаўлена перадышка па пагашэнні яго даўгоў. Аднак далейшы лёс больш чым ста працуючых на прадпрыемстве, заснаваным паўстагоддзя назад, незайздросны, бо кіраўніцтва вобласці плануе пакінуць дзейнічаць толькі 6 мадэрнізаваныхільнозаводаў. На жаль, ільнозавод у гарпасёлку чакае, хутчэй усяго, сумная перспектыва закрыцця.

Ушацкі раён

# Час не пашкадаваў мемарыял

■ Кастусь Александровіч

**Час няўмольны, і напярэдадні 70-й гадавіны Вялікай Перамогі засталіся толькі лічаныя сведкі тых падзей і непасрэдна воіны-пераможцы вайны з нацысцкім злом.**

Праз столькі дзесяцігоддзяў сталі разбурацца створаныя помнікі, а ва Ушацкім раёне восенню нават абвалілася частка вялізнай бетоннай сцяны на мемарыяльным комплексе "Прарыў" паблізу райцэнтра. Добра, што ў той момант нікога з людзей на месцы, дзе ў вайну вырваліся з акружэння падчас фашысцкай блакады тысячы партызан і мірных жыхароў, нікога не было. Пасля гэтага адразу было вырашана на велічным мемарыяле правесці патрэбны рамонт і рэканструкцыю, бо ён адкрыўся 41 год назад. Сёлета напярэдадні 9 мая ля сяміметровай фігуры партызана з аўтаматам яшчэ пройдуць святочныя мерапрыемствы, а потым тут пачнуцца капітальныя работы. Спецыялісты высветлілі, што металічныя каркасы ўнутры дзвюх разарваных бетонных глыб знасіліся, патрабуюць поўнай замены з-за карозіі металу. Гэты аб'ект уключаны ў абласную інвестыцыйную праграму, на ажыццяўленне падрыхтаванага праекта рэканструкцыі пойдзе не адзін мільярд рублёў і не адзін год. Таму сёлета мемарыяльны комплекс "Прарыў" будзе закрыты для наведвальнікаў. Драматычныя падзеі на Ушаччыне вясной 1944 года закранулі дзясяткі тысяч байцоў 16 партызанскіх брыгад і мясцовага насельніцтва. Тады гарэлі лясы і вёскі, падчас баёў загінулі больш 2 тысяч беларусаў, але змаглі вырвацца са смяротнай пасткі і вывелі з акружэння і 16 тысяч мірных жыхароў. З дапамогай сродкаў абласнога бюджэту і ахвяраванняў спонсараў таксама ў райцэнтры будзе аднаўлены мясцовы музей народнай славы, у склад якога ўваходзіць і мемарыяльны комплекс "Прарыў". Тут адбываліся драматычныя і гераічныя падзеі, аб якіх павінны памятаць новыя пакаленні.

Пастаўскі раён

# Перастала радаваць жыццё

■ Чэслаў Якубовіч.

**Ва ўсіх кутках краіны па традыцыі днямі правялі патрыятычную акцыю "Мы – грамадзяне Беларусі" па ўручэнні маладым людзям іх першых нацыянальных пашпартоў.**

Паўсюдна на такіх сустрэчах прынята было казаць, каб юнакі і дзяўчаты ганарыліся дасягнутай у дзяржаве стабільнасцю, з аптымізмам глядзелі ў будучае. Вось толькі рэальнае жыццё чамусьці не радуе многіх дарослых, а пракуратура Пастаўскага раёна выказала занепакоенасць павелічэннем фактаў гібелі людзей у рэгіёне па розных прычынах. У мінулым годзе ў гэтай мясцовасці пайшлі з жыцця не ад хвароб 48 грамадзян, большасць з якіх працаздольнага ўзросту. Летась тут амаль у 2 разы падвоілася колькасць самазабойцаў і дасягнула 17 чалавек, з якіх 12 яшчэ не дажылі да пенсіі. Прычым павесіліся 15 мужчын і толькі 2 прадстаўніцы чароўнай паловы чалавецтва. Шкада, але за год аднаго чалавека забілі, двое памерлі пасля моцнага збіцця. Яшчэ 5 мясцовых жыхароў загінулі падчас дарожна-транспартных здарэнняў і столькі людзей на Пастаўшчыне за год утапіліся. Не можа не насцярожваць, што ў большасці такіх трагічных выпадкаў першапрычынай смерці стала злоўжыванне спіртнымі напоямі. Дарэчы, у рэгіёне ўрачы зафіксавалі смерць 6 грамадзян, з іх дзве жанчыны, менавіта ад празмернага ўжывання алкаголю. Яшчэ дзве жанчыны ва ўзросце загінулі ад пераахаладжэння арганізма падчас моцных маразоў. У гэтым годзе жыць стала многім жыхарам краю яшчэ цяжэй, бо ў цяжкім эканамічным становішчы знаходзяцца шэраг прадпрыемстваў і гаспадарак, аднак столькі гібнуць людзей у мірны час не павінна.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.03.15 | | | | Пятніца 27.03.15 | | | | Субота 28.03.15 | | | | Нядзеля 29.03.15 | | | | Пан. 30.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +4 | +4 | +11 | +8 | +7 | +5 | +12 | +9 | +7 | +6 | +12 | +8 | +5 | +4 | +8 | +4 | +4 | +4 | +8 |
| Ціск | 750 | 751 | 750 | 748 | 747 | 748 | 748 | 748 | 747 | 747 | 748 | 746 | 746 | 746 | 745 | 741 | 735 | 732 | 730 |
| Вільготнасць | 78 | 100 | 74 | 71 | 69 | 88 | 55 | 63 | 67 | 91 | 61 | 61 | 67 | 96 | 72 | 67 | 73 | 99 | 53 |
| Вецер м/сек | 4 У | 4 У | 7 У | 7 У | 6 Пд-У | 7 Пд-У | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 7 Пд-У | 7 Пд | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд | 6 Пд | 8 Пд | 8 Пд | 7 Пд | 8 З |

Аб самым надзённым

# ПАПА РЫМСКІ Ў БЛІЖЭЙШЫ ЧАС НАЎРАД ЦІ ПРЫЕДЗЕ Ў БЕЛАРУСЬ, БО ТАКІ ВІЗІТ МОЖА МОЦНА РАЗДРАЖНІЦЬ КРЭМЛЬ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сапраўды, у нашай краіне мірна ўжываюцца паміж сабой розныя рэлігіі і каля 30 канфесій, а вось буйнейшыя і самыя ўплывовыя праваслаўная і каталіцкая. І хоць на гэты раз кардынал П. Паралін пацвердзіў, што яго візіт можа папярэднічаць пастырскай паездцы ў Беларусь Папы Францыска, але заўважыў, што для такога візіту павінны скласціся станоўчыя ўмовы.**

У адрозненне ад савецкіх часоў, у нашай краіне вельмі многае змянілася ў лепшы бок у плане духоўнага адраджэння нацыі, галоўнае, што не стала ваяўнічых атэістаў. Між тым, яшчэ чвэрць стагоддзя назад у тагачаснай БССР было ўсё наадварот. Да прыкладу, на нашай зямлі практычна ўсе каталіцкія святыні, кляштары, духоўныя семінарыі былі закрытыя альбо ўвогуле разбураныя. Гэта было варварства, што на тую 10-мільённую савецкую рэспубліку ў цэнтры Еўропы прыходзілася меней дваццаці ксяндзоў. Добра памятаю, як таемна мае сябры і родныя хрысцілі сваіх дзетак за дзясяткі км ад дому і нават на кватэры праваслаўнага бацюшкі.

На шчасце, той дурны час знік, як цяжкі сон. Цяпер у розных кутках Беларусі вядуць душпастырскую дзейнасць Госпаду і людзям звыш 400 толькі каталіцкіх і грэка-каталіцкіх святароў, большасць з якіх беларускага паходжання. Днямі ў нашай краіне ўжо ў другі раз адбыўся афіцыйны візіт другой асобы дзяржавы Ватыкана, дзяржсакратара Папы Рымскага кардынала П'етра Параліна. Другі значны іерарх ужо Рускай праваслаўнай царквы патрыярх Кірыл увогуле бывае ў нас рэгулярна і сёлета ў ліпені ён таксама наведае Беларусь. Палітолагі адразу прыкмецілі, што актывізацыя такіх адносін беларускага кіраўніцтва менавіта з уплывовай заходняй канфесіяй зноў пачалася напярэдадні новых прэзідэнцкіх выбараў.

Нагадаем, што 7 гадоў назад агульную дарогу да Бога паспрабаваў яшчэ болей узмацніць падчас свайго візіту з Рыма кардынал Тарчызіо Бертоне. Аднак дагэтуль у Беларусі не падпісаны канкардат, афіцыйны дакумент, які б засведчыў правы статус рымска-каталіцкага касцёла, які мае даўно праваслаўная царква. Не сакрэт, што менавіта яшчэ раней адмоўная пазіцыя Маскоўскага патрыярхату перашкодзіла прыехаць у Беларусь Папе Рымскаму Яну Паўлу II, якога запрасілі і вельмі чакалі беларускія каталікі. Канешне, вельмі добра, што наладжваюцца зноў нармальныя і нават сяброўскія адносіны ўлад Беларусі з Ватыканам, але асабліва не варта мець ілюзій.

Сапраўды, у нашай краіне мірна ўжываюцца паміж сабой розныя рэлігіі і каля 30 канфесій, а вось буйнейшыя і самыя ўплывовыя праваслаўная і каталіцкая. І хоць на гэты раз кардынал П. Паралін пацвердзіў, што яго візіт можа папярэднічаць пастырскай паездцы ў Беларусь Папы Францыска, але заўважыў, што для такога візіту павінны скласціся станоўчыя ўмовы. Калі адкінуць убок дыпламатычную рыторыку, то гэта азначае атрымаць адабрэнне-дазвол на такую паездку менавіта з Масквы. І невыпадкова прысланы з Расіі новы мітрапаліт Павел адразу адзначыў, што пакуль такое пытанне аб візіце Папы Рымскага ў Мінск не стаіць.

Для Крамля, якога, безумоўна, раздражняе канструктыўная пазіцыя А. Лукашэнкі па сітуацыі ў Данбасе яшчэ і далейшы паварот некалькіх мільёнаў каталікоў-беларусаў на Захад, такое развіццё падзей было б непрымальным і непажаданым. Справа ў тым, што, на жаль, на ўзроўні высокіх духоўных чыноў і палітыкаў няма разумнай і Божай талерантнасці, сапраўднага духоўнага паразумення. Не ўсе ведаюць, што з той жа праваслаўнай веры і царквы выхад катэгарычна забаронены. На самой справе ў жыцці здараецца такое, што калі дзяўчына-каталічка выходзіць замуж за праваслаўнага, то быць і заставацца каталічкай у такой сям'і яна не мае права і дазвол на шлюб маладыя не атрымаюць.

Пра такія сітуацыі гавораць мала, але ж якія душэўныя перажыванні пераносяць канкрэтныя людзі, калі іх намагаюцца перахрысціць у іншую веру. Не павінна ў нас быць спрэчак аб "правільнай" і быццам "няправільнай" веры. Людзі не могуць абудзіцца канчаткова і зразумець, што ёсць адзін Госпад, адна вера, адзін хрост, адно цела і адзін Дух. Тым часам у сваім непрыманні асноўных заходніх і хрысцінскіх каштоўнасцей наш усходні сусед паслядоўны і падобна на тое, што ніякай меры не ведае. Як па іншаму можа вытлумачыць пазіцыю Крамля, што ён выступіў супраць уводу міратворчых сіл ААН у ахоплены пажарам вайны Данбас ва Украіне.

Рускія там распалілі полымя вострага грамадзянскага супрацьстаяння, а, на жаль, маюць права вета ў Савеце бяспекі. Мы ж павінны ўсвядоміць, што крамлёўскія правіцелі давялі сваю краіну да сур'ёзнага эканамічнага і сусветнага геапалітычнага крызісу, які перакінуўся і на нашу краіну. Перад тым, як расійскі лідар перастаў з'яўляцца на публіцы і пайшлі чуткі, што ў яго нарадзілася ў Швейцарыі яшчэ адно дзіця ад каханкі-гімнасткі, паблізу Крамля ў цэнтры расійскай сталіцы забіваюць аднаго з лідараў апазіцыі. І праз некалькі дзён гарыць ужо трэці па ліку буйны гандлёвы цэнтр-рынак у Казані, гінуць і атрымоўваюць раненні дзясяткі людзей. Як падаецца, такія з'явы толькі пацвярджаюць духоўную хваравітасць і бязбожную сутнасць многіх людзей, у тым ліку і ўладу трымаючых, за што Госпад наш і карае жывучых на грэшнай зямлі.

## Дзень за днём

**Пасля перапынку з восені беларусы зноў панеслі валюту ў абменнікі, у лютым яны прадалі банкам 66,7 млн. $. З пачатку года за два месяцы цэны ў Беларусі выраслі яшчэ на 4,1 %, беспрацоўных стала болей амаль на 12 тысяч чалавек. Колькасць вакансій для будаўнікоў знізілася на трэць, толькі з Расіі вернуцца больш 100 тысяч такіх гастарбайтараў. Міністэрства аховы здароўя Беларусі пачало татальны кантроль за выпіскамі ўрачамі рэцэптаў і прыпыніла дзейнасць 20 аптэк. Летам з 1 ліпеня цыгарэты знікнуць з вітрын беларускіх магазінаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Пасля кансультацый з канцлерам Германіі А. Меркель прэзідэнт Б. Абама вырашыў адкласці пастаўкі сучаснай зброі ва Украіну, там сітуацыю могуць паправіць дыпламаты.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што ўкраінцы болей не залежаць ад паставак расійскага газу, паліва яны будуць купляць па рэверсу з Еўропы па 245 долараў.

**Англія.** Глава МЗС Ф. Хэммонд зноў заявіў, што мілітарысцкая Расія пагражае не толькі тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны, але і бяспецы ўсіх дзяржаў Усходняй Еўропы.

**Расія.** МЗС РФ паведаміў аб поўным прыпыненні ўдзелу краіны ў Дагаворы аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, але Крэмль прадоўжыць дыялог з НАТО аб кантролі зброі.

**Бельгія.** Намеснік генсакратара НАТО А. Вершбоу заявіў, што ўраду РФ усё цяжэй хаваць ад свайго народа праўду аб гібелі вялікай колькасці да 500 рускіх ваенных у Данбасе.

**ЗША.** Дырэктар нацыянальнай разведкі Д. Клаппер папярэдзіў, што неўзабаве ва Украіне адновяцца актыўныя баявыя дзеянні з тайным удзелам рускіх ваенных.

**Італія.** Дачка забітага палітыка Б. Нямцова Жанна, аглядальнік тэлеканала РБК усклала палітычную віну за яго гібель на Пуціна, заклікала ўвесці санкцыі супраць дзяржаўных каналаў.

**Польшча.** Урад краіны выдзеліў 4 млрд. еўра на стварэнне сучаснай сістэмы супрацьпаветранай абароны па праекце “Вісла”, гонка ўзбраенняў у Еўропе пачалася.

**Германія.** Аналітыкі Deutshe Bank папярэдзілі, што з-за адтоку капіталаў з Еўропы да канца гэтага года еўра дасягне парытэту з доларам, у 2016 г. стане каштаваць 90 цэнтаў.

**Кітай.** Кампанія Broad Buildings устанавіла сусветны рэкорд і пабудавала па модульнай тэхналогіі за 19 дзён домхмарачос з 57 паверхаў з энергаэфектыўнай сістэмай абагрэву.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Н. Мадура абвінаваціў ЗША ў спробе ажыццявіць дзяржаўны пераварот, у краіне ўзнік дэфіцыт тавараў, ежу сталі прадаваць па адбітках пальцаў.

**Казахстан.** Прэстарэлы 74-гадовы прэзідэнт краіны з 1990 года Н. Назарбаеў зноў пагадзіўся балатавацца на пазачарговых выбарах 26 красавіка на пасаду главы дзяржавы.

**Польшча.** У польскай сталіцы Варшаве адкрылі другую новую лінію метро пад Віслай з сямі станцый коштам будаўніцтва разам з закупкай цягнікоў 1,5 млрд. еўра.

**Аргентына.** У выніку сутыкнення двух верталётаў у правінцыі Ла-Рыоха загінулі 10 чалавек, у тым ліку 8 французаў, сярод іх - алімпійская чэмпіёнка і прызёр гульняў.

**Фінляндыя.** На чэмпіянаце свету па біятлоне ў Канціолахці зборная Беларусі не вытрымала канкурэнцыі і ўпершыню з 2009 года не змагла заваяваць ніводнага медаля.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Вядучая айчынная гандлёвая сетка “Еўраопт” па выніках працы летась атрымала 527 мільёнаў долараў прыбытку, мае планы выйсці на Лонданскую біржу і сусветныя рынкі капіталу.

**Гомель.** Яшчэ 100 чалавек звольнілі з “Гомсельмаша”, па заводу з 9,5 тысячамі працуючых пайшлі чуткі аб скарачэнні 30 % персаналу, перайшлі на працу 3 дні ў тыдзень

**Астравец.** Дырэкцыя Беларускай АЭС прызнала, што ўзніклі ў расійскай кампаніі “Атамбудэкспарт” фінансавыя цяжкасці для прадаўжэння па графіку работы на станцыі.

**Пухавічы.** Услед за міністрам абароны, уручыўшым А. Лукашэнку аўтамат, глава МУС Беларусі падараваў главе дзяржавы камуфляжную ваенную форму перад выбарамі.

**Мінск.** Да канца года, як папярэдзіў вядомы эканаміст Л. Злотнікаў, заробкі беларусаў могуць зменшыцца яшчэ на 15-20 % з-за скарачэння аб’ёмаў экспарту найперш у Расію.

**Масты.** Пакуль 35-гадовы бацька вечарам пайшоў сустракаць жонку з гасцей ад бацькоў, у замкнёнай хаце з-за свавольства з запалкамі на пажары загінулі іх трое малых дзяцей.

**Брэст.** Да трох дзён дазволілі знаходзіцца без віз замежным грамадзянам на тэрыторыі Нацыянальнага парка “Белавежская пушча”, з Польшчы сюды можа трапіць і пешшу.

**Бабруйск.** Следчыя заняліся крымінальнай справай трох работніц аптэкі, якія скралі за 3 гады 400 млн. рублёў, бухгалтар уцякла ў Санкт-Пецярбург, дзе яе арыштавалі.

**Гродна.** У цэнтры занятасці зарэгістравалі 745 вакантных рабочых месц, але на іх прэтэндуюць зараз больш 2 тысяч беспрацоўных гараджан, ідуць скарачэнні працоўных.

**Гомель.** З-за адсутнасці збыту прадукцыі ў Расіі большасць работнікаў “Гомельдрэва” адправілі ў вымушаны частковa аплочваемы водпуск, прастойвае і фабрыка шпалеры.

**Крычаў.** У перапоўненай актавай зале “Крычаўцэментшыфера” пачаўся суд над гендырэктарам Л. Скоцкім па абвінавачванні ў карупцыі, па яго справе 146 сведкаў.

**Пружаны.** Ноччу на адной з вуліц райцэнтра п’яная жанчына-кіроўца разбіла свой Peugeot і знесла 7 метраў плоту, спрабуючы аб’ехаць ката, яна з сяброўкай не пацярпелі.

**Лоеў.** За фотаздымак мясцовага РАУС расійскі геолаг, кандыдат навук А. Калеснічэнка атрымаў 10 сутак арышту, па краіне забаранілі здымкі адміністрацыйных будынкаў.

**Мінск.** З афіцыйным 4-дзённым візітам Беларусь наведаў дзяржаўны сакратар Папы Рымскага кардынал П. Паролін, правёў шэраг сустрэч і Богаслужэнне ў архікатэдры.

**Гомель.** Матч ½ фіналу чэмпіянату Беларусі па хакеі з мінскім “Юнацтва” з 6 авертаймаў (165 хвілін і 11 секунд) стаў другім па працягласці ў гісторыі сусветнага хакею.

# Мінгандлю Беларусі ўстанавіў гранічныя максімальныя адпускныя цэны на малочныя прадукты і мяса бройлераў



■ Таццяна Грыгаровіч - БЕЛТА

**Міністэрства гандлю Беларусі ўстанавіла гранічныя максімальныя адпускныя цэны на малочныя прадукты і мяса куранят-бройлераў. Адпаведная пастанова Мінгандлю №2 апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

Так, гранічныя максімальныя адпускныя цэны на малако каровіна пастэрызаванае без смакавых дабавак і напаўняльнікаў у поліэтыленавых пакетах у залежнасці ад тлустасці ўстаноўлены на ўзроўні Br3 075 - Br5 007 за 1 л; кефір з каровінага малака без смакавых дабавак і напаўняльнікаў у поліэтыленавых пакетах - ад Br2 810 да Br5 051 за 1 л. Лімітавая максімальная адпускная цана смятаны вагавой без смакавых дабавак і напаўняльнікаў - ад Br12 352 да Br20 091 за 1 кг; тварагу вагавага без смакавых дабавак і напаўняльнікаў - Br16 232 - Br20 941 за 1 кг.

Лімітавая максімальная адпускная цана на мяса куранят-бройлераў устаноўлена ў памеры Br24 756 за 1 кг.

Пастановай таксама зацверджана інструкцыя аб устанаўленні і прымяненні цэн на асобныя сацыяльна значныя харчовыя тавары.

Дакумент уступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

Як паведамлялася, з 12 лютага кошты на сацыяльна значныя тавары замест Міністэрства эканомікі рэгулюе Міністэрства гандлю Беларусі. У прыватнасці, гаворка ідзе пра кошты на жытні і жытнёва-пшанічны хлеб, мяса (ялавічыну, свініну), мяса курэй і куранят-бройлераў, курыныя яйкі, каровіна пастэрызаванае малако і кефір, смятану, тварог, сухія сумесі і кашы для дзіцячага харчавання. У вядзенне Мінгандлю перайшлі таксама сацыяльна значныя тавары, цэны на якія рэгулююцца не больш за 90 дзён на працягу года. У іх ліку свежая рыба (сямейства карповых), свежамарожаная рыба ў тушкі (сямейства карповых, трасковых, сельдевых, скумбрыевых, аргенціновых), сметанковае масла, пшанічная мука, сланечнікавы і рапсавы алей, цукар-пясок, харчовая паваранaя соль.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У праграму ўзвядзення жылля з дзяржаўнай падтрымкай на 2015 год уключылі будаўніцтва 27 жылых дамоў у асноўным у раённых цэнтрах вобласці, іх здача ў снежні.

**Наваполацк.** На ААТ “Нафтан” з задавальненнем сустрэлі рашэнне Дзярждэпартамента ЗША адмяніць санкцыі, уведзеныя вясной 2011 года супраць “Беларуснафты”.

**Віцебск.** Да мяжы ліквідацыі ўшчыльную падышло ААТ “КІМ”, заробкі людзям затрымліваюцца ўжо паўгода, даўгі па зарплаце і на іншых прадпрыемствах горада.

**Верхнядзвінск.** Услед за пастаўкамі прадукцыі ў Кітай мясцовы масласырзавод заключыў дагаворы аб супрацоўніцтве і з кампаніямі Узбекістана і Кыргызстана.

**Гарадок.** Падчас вызнога прыёму людзі паскардзіліся дэпутату Палаты прадстаўнікоў У. Шыцько на безгаспадарчасць і п’янства, даўгі па зарплаце ў сельгасфіліяле льнозавода.

**Віцебск.** Прэм’ер-міністр Беларусі А. Кабякоў паабяцаў дапамагчы тэлезаводу “Віцязь” вырашыць частку праблем, восенню там плануюць наладзіць выпуск абсталявання для гіпермаркетаў.

**Орша.** На станцыі Орша-Заходняя падчас выканання манеўровых работ пад цеплавоз трапіў 20-гадовы хлопец на падпітку і пазбавіўся пальцаў абедзьвюх рук.

**Віцебск.** Эканамічны суд вобласці прызнаў банкрутам Віцебскі вінаробчы завод, заснаваны ў 1930-х гадах, ён стаў неплацежаздольным яшчэ ў студзені 2013 года.

**Полацк.** Са студэнтамі і выкладчыкамі юрыдычнага факультэта мясцовага дзяржуніверсітэта сустрэўся старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала.

**Паставы.** У цэнтральным універмагу “Амега” больш чым у 2 разы ўпаў да 650 мільёнаў рублёў штомесячны тавараабарот, летась там прадавалі тавараў на 1,5 мільярда і болей.

**Верхнядзвінск.** У адпаведнасці з графікам радыётэлевізійная перадаючая станцыя ў Асвеі спыніла аналагавае вяшчанне і стала трансліраваць праграмы толькі ў лічбавым фармаце.

**Глыбокае.** У сталічным выдавецтве “Кнігазбор” выйшаў у свет зборнік успамінаў і вершаў “Пагавары са мной”, прысвечаны памяці выдатнага паэта Віталя Гарановіча.

**Наваполацк.** Упершыню лаўрэатам ганаровага звання “Чалавек года горада” стаў праваслаўны святар, айцец Аляксандр, ініцыятар шэрагу значных духоўных акцый.

**Браслаў.** У створаным пры Нацыянальным парку “Браслаўскія азёры” інфармацыйным цэнтры з пачатку года пабывалі на экалагічных экскурсіях ужо больш 150 вучняў школ раёна.

**Віцебск.** Да 10 гадоў турмы пагражае 19-гадоваму раней судзімаму хулігану, які ў Доме кіно распыліў газ з балончыка 14-гадовай дзяўчыне і ледзь не спаліў ёй вочы.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

■ Уладзімір Скрабатун

# Пад Лепелем праводзілі зіму і гукалі вясну

**Меркаванне, што ў Глыбокім лепш, чым усюды, бывае і памылковым. У нас, сапраўды, ладзіцца досыць багата розных культурніцкіх мерапрыемстваў, можа нават больш, чым усюды, але ўсе іх ладзіць улада, установа культуры.**

У нас штосьці такога, каб ладзіла грамада – мастакі, гісторыкі, краязнаўцы і журналісты – па-за мерапрыемствамі ўлады ці ўстановы культуры – няма!

Ды й, зрэшты, а каб зладзілі, напрыклад, гуканне вясны на беразе Бегляца, то ці апынуліся б усе ўдзельнікі ў пастарунку міліцыі? За што? За несанкцыяванае масавае мерапрыемства! Можна, зразумела, і падаць заяву ў райвыканкам аб дазволе падобнага мерапрыемства, але вынік, як паказала шматгадовая практыка, будзе толькі адмоўным. Нельга!

Лепельская творчая грамада, штогод, самахоць, ля стода Перуна, праводзіць провады зімы і гуканне вясны. Прыязджаюць госці з Мінска і Полацка, а гэтым разам – і мы з Глыбокага.


Лепельчане ля стода Перуна.


Лявоніха!


Разумны лепельскі сабака носіць дровы для вогнішча.


Побач са стодам Перуна – камень-следавік з адбіткам "чалавечага" следу. Трэба пакласці ў след ахвяру, напрыклад, манету. Няма манетаў? – побач слоік для папяровых беларускіх грошай.

Вогнішча, на якім спальваецца пудзіла Зімы, карагод з песнямі провадаў зімы і гукання вясны – па ўдары ў бубен і чароўныя мелодыі дуды (валынкі). Абрадавыя песні, між іншым, не ўзятыя з нейкіх этнаграфічных зборнікаў, а запісаныя ў старажылаў лепельскімі краязнаўцамі і этнографамі на Лепельшчыне і Ушаччыне. То бок традыцыі гукання вясны маюць тут шматвекавую мясцовую гісторыю.І ў гэты дзень, па даўняй традыцыі, рабілася першая баразна. А як рабілася? Сакавік жа, зямля ўмёрзшая! Яе рабілі бараной у хатах, дзе раней былі земляныя падлогі.

Адкрыю Вам, шаноўныя чытачы, адну таямніцу: сярод сямі глыбачанаў, якія бралі ўдзел у паганскім (язычніцкім) абрадзе гукання вясны, толькі аўтар гэтых радкоў – праваслаўны, іншыя шэсць – каталікі. Паглядзім, як нашыя каталікі будуць цяпер замольваць грахі ў касцёле. Ну, а аўтара гэтых радкоў – тое не датычыць, ён быў у якасці журналіста.

Жарт, зразумела!

■ Уладзімір Скрабатун

# А не згубім мы нашую вёску?

Уся нашая сістэма трымаецца на страху… Пачулі, што недзе, на Беларусі, лютуе афрыканская чума свіней (АЧС), а што і як – мы дакладна не ведаем! А тут, раптам, у нашых краях, ля вёскі, паляўнічыя знаходзяць труп дзіка. Дык падыхалі тыя дзікі і раней, але ніхто не ўзнімаў гвалт! Можа, той дзік якой заразы наеўся на сметніку ды сканаў? Натуральна, санітарныя службы мусяць спраўдзіць, правесці аналіз, зрабіць экспертныя высновы. Але, пакуль тыя эксперты спраўджваюць, ужо па вёсцы гойсаюць – ветурач, прадстаўнік мясцовай улады, участковы: "Усіх свіней пад нож! Хто не падпарадкуецца – аштрафуем!" Страх, што выганяць з працы, пазбавяць пасады, і куды потым падацца. Ёсць чума, няма чумы – лепш перастрахавацца! Пад нож!

Праз два дні, як парэзалі свіней у вёсцы, высвятляецца, што дзік сканаў не ад чумы, а нешта не тое з'еў. Стыхійны мітынг, хтосьці з больш дасведчаных датэлефанаваўся да БелСАТа і гэты народны гнеў ужо здымае тэлеапаратар. Усе задаюць пытанне: *"Хто нам кампенсуе выдаткі на гадаванне свіней? Ці дадуць нам цяпер парасят на льготных умовах? Як мне дапамагаць сыну (дачэ) студэнту сплаціць вучобу, бо гадавалі ж на продаж? І як нам цяпер самім жыць, бо ў калгасе заробак – паўтара мільёна ў месяц і той затрымліваюць на тры месяцы?"*

Чаму тая чума лютуе толькі ў нас? А ў Літве, у Польшчы пра яе й не чулі! Хіба што мытнікі суседзяў больш пільней паставіліся да беларусаў пры пераездзе мяжы. – У вас жа чума! Свініну везяце?

Спрэчкі сярод нашых абывацеляў то сціхаюць, то разгараюцца з новай сілай. *– Гэта – дыверсія супраць беларускай вёскі!–* кажуць шматлікія. *– Выгадная буйным вытворцам! Бо дробныя вясковыя вытворцы свініны, якія гандлююць на рынках – канкурэнты, збіваюць кошт. Іх трэба задушыць! Даць такім чынам шлях буйным, якія будуць трымаць свой адпаведны кошт.*

Аднак, не будзем гадаць, наколькі такое бачанне сітуацыі мае рацыю. Адно дакладна, гэта – свядомае, альбо несвядомае (хоць і з-за некампетэнтнасці), але канчатковае знішчэнне беларускай вёскі. Знікне сам сэнс жыцця ў вёсцы, знікне база для развіцця фермерства. Знікне і сама культура вытворчасці вясковых прысмакаў са свініны, яе кулінарыя: "каўбасы пальцам пхіханыя", вяндліны, сала, кумпякі вяленыя, клёцкі "з душамі", самаробныя тушонкі…



Заўважым, што ў рускіх такой культуры ніколі не было! У 1960-я гг пакаленне нашых бацькоў (а для каго і пакаленне дзядоў) дзіву дзівіліся пасля наведвання Расіі. Апавядалі жахі! Гарадоў няма, дзядоўнік і чартапалох – пад самыя стрэхі! Выгадаваў адзін рускі "борова", завалілі, падвесілі за сук яблыні: кішкі, ныркі, печань, лёгкія, сэрца – вон сабакам і катам, тушу падзялілі між суседзямі! Тыдзень папілі, закусілі – пайшлі да іншага, завалілі, падзялілі. *– Каўбасаў рускія не робяць, тушонак не закатваюць, сала не соляць – гультаі, адным словам! –* смяяліся глыбачане.

Рэкламуюць рускія каўбасы па тэлебачанні, але падкрэсліваюць, што выраблены па старадаўнім нямецкім рэцэптам. З'ехалі сёння немцы на гістарычную радзіму – шматлікія рэцэпты згубіліся! Цяпер прадукуюць яны ў Нямеччыне так званую "Лакманскую" каўбасу.

Знікне беларуская вёска, знікне цэлы пласт нашай культуры - і хто будзе працаваць у сельгасвытворчасці? Мо кітайцаў завязуць!

Наш сталы чытач Алесь Гай у сваіх развагах стараецца дапамагчы вясковым вытворцам свініны і прапануе свой варыянт.

■ Алесь Гай

*Рэха нашых публікацый*

# Забаранілі, а далей што?

**У адным з нумароў газеты "Вольнае Глыбокае" была заўвага, што "ВГ" прыпыняе прыём абвестак, якія датычаць продажу свіней і прадуктаў іх убою з прыватных падворкаў грамадзян.**

Газета паведамляе, што яна спасылаецца на Глыбоцкую раённую ветэрынарную станцыю. Ветстанцыя спасылаецца на рашэнне Глыбоцкага райвыканкама ад 23.09.2013г №1238, кіруючыся пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.08.2013г №758. Прычына – рэха афрыканскай чумы свіней у нашым краі. Канечне, пастанову Савета Міністраў трэба выконваць. Здзіўляе тое, а што ў замен прапануе раённая ўлада і наш дзяржаўны гандаль. Забараніць вялікага розуму не патрэбна. На маю думку, глыбачане памятаюць, што ў нас на цэнтральным рынку з бліжэйшых раёнаў былі самы вялікі мясны павільён. Усё можна было купіць: і сялянскае сала, і свіную галаву, ногі свіныя на халадзец. Селянін мог адсячы кавалак мяса ці рэбрышкаў, адрэзаць любы кавалак сялянскага сала. А зараз што? Пусты павільён. Сапраўды, магчыма і ёсць гэтая чума, але не на ўсёй тэрыторыі раёна і, тым больш, на тэрыторыі бліжэйшых раёнаў.

У аўтара гэтых радкоў многа родзічаў пражывае ў бліжэйшых вёсках раёна. Ведаюць, што мае артыкулы друкуюцца ў "ВГ", прапанавалі мне звярнуцца ў газету з такой прапановай. Па-першае, скажу, што іх прапанова заслугоўвае ўвагі. У нас у раёне ёсць Глыбоцкая нарыхтоўчая кантора. Напрыклад, Глыбоцкая нарыхтоўчая кантора дае абвестку ў "ВГ", што яна закупляе ў сялян мяса, сала па цане, якую прапануе гаспадар. Нарыхтоўшчык прыязджае на падворак селяніна з прадстаўніком ветэрынарнай службы. Правяраюць на хваробу афрыканскай чумы, разлічваюцца, і ўся гэта працэдура заканчваецца. Нарыхтоўчая кантора павялічвае кошт, канечне, не больш, чым на 5-10%, і рэалізуе. Прапануе ад сябе.

Па вуліцы Міра ёсць вялікі дзяржаўны магазін "Маладзёжны". Памяшканняў хапае. Прапаную і назву – "Сялянскі". Жыхары горада толькі скажуць вялікі дзякуй раённай уладзе і дзяржаўнаму гандлю, калі гэта прапанова будзе прынятая.

Заходзіш у гэты "Сялянскі" магазін, купляеш кавалак сала дамашняга ці мяса, як кажуць, у разруб, галаву свіную, ногі свіныя. Пра гэта толькі можна марыць! У нас у горадзе двухпавярховы будынак кіраўніцтва раённага гандлю. Не вялікі сакрэт, калі вы зойдзеце ў любы кабінет, і што там убачыце? Абставіўшыся камп'ютарамі, ці то нейкімі сваімі справамі займаюцца, ці то штосьці падлічваюць чыноўнікі гандлю? Яшчэ не сакрэт, што ў вышэйшага кіраўніцтва гандлю раёна месячны заробак раўняецца ці не гадавому заробку прадаўца таго ж магазіна "Маладзёжны", што па вуліцы Міра.

Глыбачане памятаюць, што некалі ў нас быў магазін "Дзіцячы свет", палатка для агароднікі. Як кажуць, не "ловіць мышэй" наш дзяржаўны гандаль.

Прыклад – памяшканне універмага, дзе трэці паверх здадзены ў арэнду. Але, няма ў нас у горадзе дзяржаўнага магазіна "Аўтазапчасткі", няма ў нас магазіна "Спартыўныя тавары". Колькі разоў можна было пачуць крытыку ад Прэзідэнта ў бок дзяржаўнага гандлю. Руху ніякага. А навошта кіраўніцтву раённага гандлю аб чым думаць. Добры заробак, у цёплым памяшканні, службовы аўтамабіль. Райскае жыццё. Нічога ў бліжэйшы час не памяняецца, пакуль кожны кіраўнік не будзе атрымліваць грошы за сваю працу.

Нядрэнна было б, каб кіраўніцтва раённай нарыхтоўчай канторы, кіраўніцтва раённага гандлю прыслухаліся да прапаноў тых, хто хоча прадаць сваё сала, мяса, бульбачку, бурачкі, маркоўку. Бо ў гэты складаны час трэба і галавой працаваць, і рукамі.

*З павагай да чытачоў пастаянны чытач "ВГ" Алесь Гай.*

# Палы травы: міфы і рэальнасць






**Вясновае і восеньскае падпальванне сухой травы пры вядзенні гаспадаркі стала традыцыяй, стэрэатыпам прыродакарыстання і паводзін. Як вынік – шкода здароўю жыхароў, прыродзе і сельскай гаспадарцы.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Травяныя палы ахопліваюць вялікія плошчы, і распаўсюджваюцца вельмі хутка. Пры моцным ветры фронт агню перамяшчаецца з хуткасцю да 25-30 км/гадзіну. Гэта вельмі ўскладняе іх тушэнне. Адзіным эфектыўным спосабам барацьбы з травянымі паламі з'яўляецца іх прадухіленне. Практычна ўсе травяныя палы адбываюцца па віне чалавека.

## Міфы пра карысць травяных выпальванняў

### Міф №1. Выпальванне выграе глебу

Глеба ад збеглага травяного пажару выграваецца зусім нязначна, але пры гэтым пупышкі, якія знаходзяцца на паверхні або каля самай паверхні, і насенне траў знішчаюцца, так што выніковы эфект ад такога «праграевання» аказваецца нулявым, а іншы раз і адмоўным.

### Міф №2. Выпальванне ўзбагачае глебу попелам

Пажар не дадае нічога новага: мінеральныя пажыўныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў попеле, усё роўна патрапілі б у глебу пры раскладанні сухой травы (летам, у цяпле, яна раскладаецца хутка). Толькі ў сухіх стэпах, дзе сухая трава можа захоўвацца шмат гадоў, пажар здольны нязначна ўзбагаціць глебу даступнымі для раслін мінеральнымі пажыўнымі рэчывамі – але выключна за кошт будучага, паколькі травяны пажар толькі змяняе даступнасць гэтых элементаў, але не іх колькасць у экасістэме.

### Міф №3. Трава хутчэй і лепш расце

Эфект больш хуткага росту травы ў выніку выпальвання з'яўляецца ўяўным: сухая трава проста хавае спачатку маладыя зялёныя парасткі, і невыпаленыя ўчасткі здаюцца шэрымі – у той час як на счарнелых выпаленых участках зялёная трава добра прыкметная.

## Асноўныя аргументы супраць выпальвання сухой травы

### 1. Травянымі паламі наносіцца шкода прыродзе

Травяныя палы знішчаюць маладыя драўняныя параснік, служаць адным з галоўных крыніц пажараў у лясах. Гінуць маладыя лесапасадкі, якія ствараюцца для абароны палёў ад усушэння, берагоў ад эрозіі, дарог ад снежных і пылавых заносаў і г.д. Значная частка ахоўных лясоў і лесапалос загінула ад травяных пажараў.

Палы, якія штогод паўтараюцца, прыводзяць да значнага збяднення прыродных экасістэм, скарачэнні біялагічнай разнастайнасці. Пры моцным травяным пажары гінуць многія жывёлы, якія жывуць у сухой траве або на паверхні глебы – хтосьці згарае, хтосьці задыхаецца ў дыме.

Асабліва небяспечныя вясновыя палы ў месцах пражывання рэдкіх і знікаючых відаў птушак, якія гняздуюць на зямлі ці на нізкіх хмызняках. Многія віды раслін таксама з цяжкасцю перажываюць травяныя пажары – асабліва тыя, чые пупышкі знаходзяцца на самай паверхні глебы або чыё насенне найбольш адчувальнае да награвання.

Травяныя палы з'яўляюцца крыніцамі выкідаў у атмасферу вуглякіслага газу. Пажары, у тым ліку і травяныя, пагаршаюць так званы «парніковы эфект», які прыводзіць да неспрыяльных змен і больш рэзкіх ваганняў клімату нашай планеты.

### 2. Травянымі паламі наносіцца шкода здароўю і жыццю чалавека

Палы могуць служыць прычынай гібелі людзей. Дым ад травяных выпальванняў вельмі шкодны для здароўя і небяспечны для жыцця людзей, якія пакутуюць захворваннямі органаў дыхання. Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, уздзеянне дыму ад такіх пажараў (галоўным чынам цвёрдых часціц з дыяметрам да 2,5 мкм, лёгка рассейваюцца ў атмасферы) выклікае цэлы спектр захворванняў, у тым ліку органаў дыхання, сардэчна-сасудзістай сістэмы, а таксама рост дзіцячай смяротнасці.

### 3. Травянымі паламі наносіцца шкода гаспадарцы

Пажары прыводзяць да прыкметнага зніжэння ўрадлівасці глебы. Пры пажарах губляюцца азотныя злучэнні (асноўная частка звязанага азоту вызваляецца ў атмасферу), і мёртвае арганічнае рэчыва глебы, якое ўтвараецца з адміраючых частак раслін. Арганічнае рэчыва забяспечвае порыстасць і рыхласць глебы, яе вільгаёмкасць.

Таксама, арганічнае рэчыва шмат у чым вызначае здольнасць глебы супрацьстаяць воднай і ветравой эрозіі – змацаваныя мёртвай арганікай часціцы пяску і гліны цяжэй змываюцца вадой або здзімаюцца ветрам, а значыць, урадлівы пласт глебы лепш захоўваецца з цягам часу.

Нарэшце, мёртвае арганічнае рэчыва вызваляе наяўныя ў ім элементы мінеральнага харчавання паступова, па меры раскладання – у той час як пры згаранні гэтага рэчыва мінеральныя элементы пераходзяць у растваральную форму хутка і ў наступстве лёгка вымываюцца першым жа моцным дажджом.

## Адказнасць за падпал сухой травы

У адпаведнасці з арт. 15.57 Адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Незаконнае выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэштках на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў» надыходзіць адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь.

## Грамадзянска-прававая адказнасць

Асобы, якія прычынілі шкоду навакольнаму асяроддзю ў выніку яе забруджвання, знясілення, псавання, знішчэння, нерацыянальнага выкарыстання, дэградацыі і разбурэння натуральных экалагічных сістэм ... абавязаны вярнуць яго ў поўным аб'ёме.

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртаецца да ўсіх жыхароў з просьбай:**

■ прыбірайце сухую траву і смецце вакол дома – але не спальвайце смецце; захоўвайце асаблівую асцярожнасць пры абыходжанні з агнём, непатушаная запалка або цыгарэта, кінутая ў траву, можа прывесці да сур'ёзнага пажару; калі вы заўважылі агеньчык у полі ці ў лесе, паспрабуйце яго патушыць, каб своечасова прадухіліць вялікі пажар.



# Галоўны прынцып бяспекі – пільнасць

**За мінулы перыяд 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна ў дачыненні да пажылых людзей учынена 4 злачынствы. Усяго за 2014 год учынена 38 злачынстваў, з іх 33 крадзяжоў.**

■ **А.І. Гігола,** *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

Найбольш распаўсюджанымі прадметамі для крадзяжу з'явіліся: маёмасць, прадукты харчавання, грошы. У дачыненні да пажылых людзей учынены і два рабаванні. Не выключэннем з'яўляюцца і злачынствы супраць жыцця і здароўя ў дачыненні да гэтай катэгорыі грамадзян. Так, жыхар в. Капыльшчына сістэматычна збіваў сваю жонку, прычыняў ёй пабоі, фізічныя і псіхічныя пакуты. У дачыненні да апошняга ўзбуджана крымінальная справа за катаванне, Глыбоцкі раённым судом ён асуджаны за ўчыненае злачынства.

У мэтах недапушчэння ўчынення злачынстваў і правапарушэнняў пажылым людзям неабходна быць пільнымі і не прапускаць у сваё жыллё незнаёмых людзей. Пры наведванні супрацоўнікаў дзяржаўных службаў пераканацца ў іх асобе, пераправерыць дадзеныя па тэлефоне ў адміністрацыі той ці іншай установы. Ні ў якім разе не ўпускаць падазроных асоб сумніўнага знешняга выгляду. Неабходна прыняць меры для таго, каб грашовыя сродкі захоўваць у банкаўскіх установах, а не дома.

Пры выяўленні ў населеным пункце падазроных людзей або выпадковых грамадзян, якія прадаюць штонебудзь, неабходна тэрмінова паведаміць у Глыбоцкі РАУС па тэлефонах 2-27-02, 2-26-82 або 102. Пры гэтым, як правіла, дадзеныя людзі прыбываюць у населены пункт на транспарце. Таму, калі прадастаўляецца магчымым, паспрабуйце запісаць марку і нумар аўтамабіля для прыняцця аператыўных мер рэагавання.

Галоўны прынцып бяспекі – пільнасць. Хацелася б бачыць больш актыўнай пазіцыю насельніцтва да праблем пажылых людзей, асабліва адзінокіх, у плане аказання пасільнай дапамогі, у першую чаргу ў пытаннях забеспячэння іх асабістай і маёмаснай бяспекі.

# Да кожнага вадаёма інспектараў не паставіш

**Столькі смецця пакінулі пасля сябе «адпачываючыя» на беразе Беразвецкага возера. І вінаватыя тут не ўлады, а самі людзі. Зараз тут навялі парадак, а колькі яшчэ можна знайсці падобных звалак!**



**Вясна ўсё больш актыўна ўступае ў свае правы. Хоць і зіма не здаецца, аднак вадаёмы адзін за адным вызваляюцца ад лёду і рыбаловы-аматары штодня звяртаюцца да работнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі з пытаннямі, ці можна будзе лавіць рыбу з лодкі да 10 красавіка, пакуль не наступіла забарона і абмежаванне на лоўлю рыбы.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Згодна з п.105 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства лоўля рыбы на тэрыторыі Віцебскай вобласці **з 10 красавіка па 8 чэрвеня** дазволена толькі адной вудай ці спінінгам з берага.

Такім чынам, да 10 красавіка грамадзяне маюць права ажыццяўляць лоўлю рыбы з плаўсродкаў і выкарыстоўваць да 10 вудаў (пры наяўнасці білета паляўнічага і рыбалова), з 10 красавіка, г.зн. з надыходам забароны выкарыстанне плаўсродкаў забаронена і ў выпадку парушэння, дадзеныя дзеянні рыбалова разглядаюцца, як здабыча рыбы забароненым спосабам, што цягне пакаранне ад 20 да 50 базавых велічынь па ч.1 арт. 15.35 КоАП РБ.

Не лішнім будзе нагадаць нашым рыбаловам, што стаянка аўтатранспартных сродкаў бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі вадаёма забароненая, мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў у межах водаахоўных зон забароненая, выкід смецця ў рыбалоўных угоддзях забаронены, знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях і на прылеглай да іх тэрыторыі на адлегласці да 1 км ад берагавой лініі з забароненымі прыладамі рыбалоўства і рыбай, лоўля якой у дадзены час або ў дадзеным раёне забаронена, альбо вага якой перавышае нормы, без дакументаў, якія пацвярджаюць законнасць валодання рыбай, з'яўляецца парушэннем і цягне адміністрацыйную або крымінальную адказнасць, у залежнасці ад нанесенай шкоды.

Тэма смецця вельмі злабадзённая для нашых вадаёмаў, калі паглядзець на ледзяное пакрыва, берагі азёр, рэк, то можна часам падумаць, што хтосьці вяселле спраўляў, столькі пустых бутэлек, рэштак яды, смецця. З прыходам цяпла ўсё гэта паплыве да берагоў, застанецца на дне азёр, дзе купаемся летам мы, нашы дзеці, родныя.

Паглядзіце на берагі малых рэк, якія цякуць праз населеныя пункты, праз горад. На берагах уладкаваныя цэлыя смеццевыя звалкі, высыпаюць усё: бляшанкі з-пад кансерваў, бытавыя адкіды - з прыходам вялікай вады ўсё гэта паплыве ў вадаёмы.

Так, супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі на беразе ракі Заражанка Пастаўскага раёна затрыманыя двое жыхароў в. Сяргеевічы Пастаўскага раёна, якія распівалі спіртныя напоі, а пустыя бутэлькі выкідалі ў лес і на бераг ракі. Інспектары прымусілі грамадзян прыбраць смецце і выпісалі штраф.

Яшчэ ў часы СССР сельскагаспадарчыя фермы будаваліся як правіла на берагах вадаёмаў альбо непадалёк ад іх, а таксама побач з ляснымі масівамі. Але тады кантроль з боку кіраўнікоў гаспадарак быў больш строгі і тэрыторыі ферм былі чысцейшымі. У цяперашні час на многіх фермах і паблізу іх берагі вадаёмаў, лес забруджаныя адкідамі кармоў, сіласу, цэлафанам, пустымі бутэлькамі.

Так, пры наведванні супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету фермы «Свядава» філіяла Прошкава ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс» на тэрыторыі фермы і вакол яе выяўлены дзясяткі пустых бутэлек з-пад спіртных напояў, кансервавых слоікаў і іншага бытавога смецця. Адкіды сіласу выкінутыя ў кусты і балота, якое злучаецца з возерам Свядава. Любы добры вясновы дождж увесь гэты бруд змые ў возера, што можа прывесці да гібелі рыбы і водных жывёл. Загадчыца фермы прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці, а кіраўніцтву ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс» вынесена прадпісанне на навядзенне парадку вакол фермы і на яе тэрыторыі.

Можна спытаць, а дзе наглядныя органы, але ж да кожнага вадаёма інспектараў і міліцыянтаў не паставіш, а вось дзе наша сумленне, гэта вялікае пытанне.

***

**Калі Вам стала вядома аб парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства або Вы сталі іх відавочцамі просьба паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 (кругласутачна) або на мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.**

## Віншаванкі

*Сафію Віктараўну Урлік*

**Віншуем з 70-гадовым юбілеем!**



Не подыскать такого слова,
Чтоб в полной мере пожелать
Вам хорошего здоровья
И никогда не унывать.
Желаем счастья и добра,
Поменьше горя и печали,
Чтоб больше было светлых дней,
А хмурые — не посещали.
Но в день чудесный юбилея
Все пожеланья хороши.
Пусть все оставшиеся годы
Несут вам радость от души!

***Сваты, нявестка, унукі Яўген і Лілія, Наталля, Аляксандр і Віталій***

## Падзяка за аказаную спонсарскую падтрымку

Канцэдалаву Сяргею Аляксеевічу (ТАА «Маркет Прадукт),

ІП Захараву Уладзіміру Леанідавічу

за аказаную спонсарскую падтрымку футбольнай камандзе «Старт-ЛТД» г. Глыбокае для ўдзелу ў чэмпіянаце Віцебскай вобласці па міні-футболе.

Добрыя справы не застаюцца незаўважанымі, упэўненыя, што Ваш прыклад паказальны і для іншых дабрачынцаў. Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва ў папулярызацыі здаровага ладу жыцця моладзі.

А таксама асобна хочам падзякаваць кіраўніцтву ТАА «Старт ЛТД» за прадстаўленую спартыўную форму.

Хочам пажадаць Вам здароўя, міру, ва ўсіх справах удалага зыходу і фінансавага дабрабыту.

***З павагай гульцы каманды «Старт ЛТД»***

# Паляванне на гусей і качак



**Паляванне ва ўсе часы было адным з любімых заняткаў мужчын. Так і ў гэтым сезоне надыходзячая вясна бударажыць кроў сапраўдных паляўнічых.**

■ **В.Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У новым вясновым сезоне паляванне будзе праводзіцца па новых Правілах вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, якія ўступілі у сілу 26 чэрвеня 2014 года. У прыватнасці, значна змянілася працягласць палявання на гусей і качак. Цяпер працягласць палявання на вышэйназваныя віды дзічыны, а дакладней, сезон не будзе перавышаць 28 каляндарных дзён у дыяпазоне дат устаноўленых дадаткам 2 да Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, г.зн. з другой суботы сакавіка па другую нядзелю траўня. Канкрэтныя тэрміны ўсталёўваюцца карыстальнікамі паляўнічых угоддзяў шляхам прыняцця адпаведнага рашэння або загаду.

Пры паляванні на качак (качароў) крыжанкі, чарнець чырвонагаловая, чарнець хахлатую, чырка-траскунка і чырка-свістунка дазволена выкарыстоўваць гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў забяспечаных шротам, для вышуку і падачы здабытай дзічыны дапускаецца выкарыстанне паляўнічых сабак: тэр'еры, таксы, лягавыя, спаніэлі, рэтрывер, водныя сабакі. Дазволеныя спосабы палявання: ружэйны з засады толькі з скрадку з прынаджваннем, з дапамогай падсадных качкі (качак) і (або) пудзілы (пудзілаў) і вабіка (вабікаў).

Пры паляванні на гусей (гусь белалобы, гусьгуменнік, гусь шэры, казарка канадская) дазволена выкарыстоўваць гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў падрыхтаваных шротам. Дазволены спосаб палявання ружэйны з засады толькі з скрадку. Для вышуку і падачы здабытай дзічыны дазваляецца выкарыстанне сабак вышэйназваных парод. Гэтак жа пры паляванні на гусей дазваляецца выкарыстоўваць падсадных жывёл, пудзілаў, профіляў, вабікаў і іншых сродкаў прынаджваннем.

Акрамя таго, звяртаем увагу паляўнічых, што здабыча качак (качароў) дазваляецца толькі на падсеўшую або падляцелую да падсадной качкі (качак) або пудзіла (пудзілаў).

Карыстальнікі паляўнічых угоддзяў пачнуць праводзіць паляванне на глушца і цецерука. Паляванне дазваляецца на таках, толькі на самцоў з 20 сакавіка па 10 траўня, птушак можна здабываць: глушца – з падыходу і з засады; цецерука – з засады.

На самца слонкі (вальдшнэпа) паляванне дазваляецца з першай суботы красавіка па другую нядзелю траўня з 18 да 22 гадзін, ружэйным спосабам з выкарыстаннем шротавых патронаў, з засады (на цязе), для вышуку і падачы здабытай дзічыны дапускаецца выкарыстанне паляўнічых сабак, пароды дазволены такія, як пры паляванні на качак і гусей.

Канкрэтныя дні палявання на ўсе вышэйзгаданыя віды дзічыны ўсталёўваюцца карыстальнікамі паляўнічых угоддзяў.

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць грамадзян аб усіх выпадках парушэння прыродаахоўнага заканадаўства паведамляць па тэлефонах (02156) 2-86-70 кругласутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

